**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 15 (888) 13 красавіка 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



Дзмітрый Літвінскі
*Фота Зм. Лупача.*

**«Пра высокае і вечнае» - пад такой назвай адкрылася выстава ў Глыбокім.**



ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10015

## Верхнядзвінскі раён

# Такім аб’ектам рады

■ Станіслаў Раманчук.

**Хоць Беларусь – транзітная дзяржава, яна толькі пачынае на гэтым зарабляць з-за недахопу сучаснага прыдарожнага сервісу.**

Вось і ў Верхнядзвінскім раёне, дзе даволі інтэнсіўны рух у напрамку Латвіі і Расіі, да нядаўняга часу такія аб’екты практычна адсутнічалі. Нават на абноўленай АЗС вадзіцелям фур нельга было адпачыць, паесці гарачых страў. Праўда, становішча змянілася ў лепшы бок пасля адкрыцця днямі на аўтатрасе Р20 побач з пунктам пропуску “Грыгароўшчына” першай чаргі новага аўтазаправачнага комплексу. Амаль мільён долараў пайшло, каб інвестар з Расіі пабудаваў там не толькі АЗС, разлічаную на абслугоўванне да 500 вялікагрузных аўтамабіляў у суткі, але і прыдарожны магазін з міні-кафэ на 16 пасадачных месц са стравамі нацыянальнай кухні. Кожны кліент запраўкі адначасова бясплатна атрымоўвае тут дадатковыя паслугі па падкачцы шын, заліву вады, можа памыць шкло кабіны. Для кіроўцаў стварылі належныя санітарна-гігіенічныя ўмовы, для іх устанавілі душавыя кабіны. Сучасным стандартам бяспекі і камфорту адпавядае стаянка, разлічаная на 70 фур. Неўзабаве ўсім жадаючым стане даступны і выхад у Інтэрнэт, а беларускія сувеніры можна набыць ужо цяпер. Новы комплекс дазволіў стварыць 20 новых рабочых месц, але на гэтым работы на ім не спыняюцца. Сёлета на гэтым пункце пропуску з’явіцца таксама электронная інфармацыя аб дакладным часе перасячэння беларуска-латвійскай граніцы. На супрацьлеглым баку дарогі ўжо пачалося будаўніцтва другой чаргі комплексу з падобным наборам паслуг і яшчэ адной АЗС. З цягам часу колькасць працоўных тут аператараў, ахоўнікаў, прадаўцоў і повараў вырасце да 40 чалавек, а аб’ём аказваемых паслуг дасягне да 10 млн. долараў штогод.

## Пастаўскі раён

# Куды падзецца людзям?

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам сітуацыя на айчынным рынку працы адчувальна пагоршылася, што яскрава пацвердзіла прыпыненая кампанія па выплатах збору “дармаедамі”.** Толькі ў Пастаўскім раёне такія паведамленні заплаціць на фінансаванне дзяржрасходаў атрымалі 1600 мясцовых жыхароў. Між тым наша дзеючая сістэма ўліку беспрацоўных моцна адрозніваецца ад міжнароднай практыкі, рэальны малюнак беспрацоўя ў шмат разоў перавышае афіцыйную статыстыку. На Пастаўшчыне ў розных сферах эканомікі занята 14,5 тысяч грамадзян, на ўліку на біржы працы ў пачатку красавіка знаходзілася 179 беспрацоўных і было 88 вакантных рабочых месц. Аднак іх запоўніць было праблематычна, бо патрабаваліся спецыялісты з адпаведным ўзроўнем адукацыі і падрыхтоўкі. Рэальна ж у раёне ў цяжкай жыццёвай сітуацыі апынуліся 1879 чалавек, якія не могуць знайсці працы на працу. Вельмі шмат пастаўчан вымушаны з’ехаць за межы краіны ў розныя дзяржавы свету на заробкі. На гэты год заданне раёну стварыць 115 новых рабочых месц, што не вырашыць сур’ёзную сацыяльную праблему. Разлічваць на аплачваемыя грамадскія работы таксама не выпадае, такую армію беспрацоўных нерэальна заняць у сельскай і лясной гаспадарцы, на добраўпарадкаванні тэрыторыі. Да таго ж сёлета ў раёне збіраюцца закрыць 6 малакамплектных школ, працэдура банкруцтва чакае 4 дабітыя да ручкі гаспадаркі. Восенню будзе расфарміравана падраздзяленне авіяцыі МНС Беларусі, экіпажы верталётчыкаў пераводзяць у сталіцу, многіх супрацоўнікаў звольняць, як было тут з раней дзеючай авіяэскадрыллю пагранвойск.

## Віцебск

# Зноў штрафы і арышты

■ Чэслаў Якубовіч.

**Яшчэ за савецкім часам падчас гарбачоўскіх рэформ Віцебск займеў сумную славу горада, які не ўспрымаў ідэі перабудовы.**

У нашы дні там мала што памянялася і ніводнага разу гарадскія ўлады апошнім часам не дазволілі прадстаўнікам апазіцыі праводзіць свае масавыя мерапрыемствы. Сёлета ў адрозненне ад Брэста і Гродна, у гэтым абласным цэнтры не дазволілі зноў правесці акцыю, прысвечаную Дню волі. Нягледзячы на гэта, каля 150 гараджан сабраліся на плошчы Перамогі, а потым калонай прайшліся з бел-чырвона-белымі сцягамі далей да помніка князю Альгерду, дзе адзін з актывістаў заклікаў беларусаў абараняць суверэнітэт краіны. Кароткі мітынг адбыўся потым ля помніка Уладзіміру Караткевічу, дзе да мануманта і да мемарыяльнай дошкі Васіля Быкава людзі ўсклалі кветкі і неўзабаве ўсё завяршылася. Міліцыя спачатку ў развіццё падзей не ўмешвалася, а пасля акцыі затрымала 7 чалавек, сярод якіх траіх журналістаў “Белсата” і “Радыё Рацыя”. На наступны дзень у міліцыю патрапілі яшчэ 4 удзельнікі акцыі, большасць з іх пакаралі за святкаванне гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі арыштамі ад 10 да 15 сутак, а жанчын – штрафамі. Праз два дні пасля акцыі была затрымана вядомая мясцовая відэаблогерша Вольга Жураўская, якую адзін з судоў горада пакараў за асвятленне падзей штрафам у суме 15 базавых велічынь (345 рублёў).

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 13.04.17 | | | | Пятніца 14.04.17 | | | | Субота 15.04.17 | | | | Нядзеля 16.04.17 | | | | Пн.17.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +6 | +7 | +4 | 0 | +1 | +5 | +2 | -1 | 0 | +7 | +3 | +3 | +5 | +3 | +1 | -1 | +1 | +4 |
| Ціск | 733 | 732 | 732 | 734 | 737 | 739 | 739 | 740 | 741 | 742 | 742 | 740 | 737 | 732 | 732 | 739 | 743 | 746 | 748 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-З | 4 Пд-З | 5 З | 5 Пн-З | 4 Пн | 1 Пн | 3 З | 2 Пн-З | 2 Пн-У | 2 У | 3 Пд-З | 3 Пд | 2 Пд-З | 4 Пд-У | 4 З | 4 Пн | 2 Пн-У | 1 Пн | 3 Пн-З |
| Вільготнасць | 93 | 94 | 82 | 90 | 87 | 71 | 52 | 73 | 88 | 84 | 45 | 90 | 96 | 98 | 92 | 85 | 79 | 66 | 49 |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСЫ ПРАЦЯГВАЮЦЬ БЯДНЕЦЬ, АЛЕ ЗОЛАТАВАЛЮТНЫХ РЭЗЕРВАЎ ХОПІЦЬ КРАІНЕ ЯШЧЭ НА 2 ГАДЫ ДЛЯ ВЫПЛАТ РАНЕЙШЫХ ЗАЙМАЎ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Як вядома, сёлета нашай краіне належыць вярнуць сваім замежным крэдыторам 3,5 млрд. долараў знешняга доўгу. Гэта сума – для Беларусі даволі значная, але валюту яна мае, каб разлічыцца за кошт накопленых золатавалютных рэзерваў яшчэ і ў наступным 2018 годзе нават не прыбягаючы да новых займаў.**

Апошнім часам ужо большасць беларусаў адчула, што яны сталі прыкметна жыць бядней і болей перажываць жыццёвых цяжкасцей. Зусім невыпадкова па ўсёй краіне напрыканцы зімы пракаціліся маршы абураных “тунеядцев”. Менавіта летась у Беларусі павысілі пенсійны ўзрост, таксама стала расці адчувальна камуналка на фоне скарачэнняў на прадпрыемствах і аптымізацыі ў арганізацыях, што прывяло да зніжэння рэальных даходаў насельніцтва. І вось у такіх умовах быў прыняты Дэкрэт № 3, сталі патрабаваць грошы ў людзей, многія з якіх, сапраўды, знаходзяцца ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях.

Тут ужо дадатковыя меры сацыяльнай абароны насельніцтва трэба было ўводзіць, а не абкладаць зборамі тых, хто ледзь зводзіць канцы з канцамі. Усё больш вядомых людзей негатыўна адазваліся пра гэты рэзанансны дакумент, уключаючы народнага артыста Беларусі А. Ярмоленку і нават пасла Расіі ў РБ А. Сурыкава. “Рэдкай ахінеяй” назваў яго праслаўлены беларус, 6-разовы алімпійскі чэмпіён па спартыўнай гімнастыцы В. Шчэрба. Даволі стрымана, на шчасце, пакуль сусветная супольнасць адрэагавала на серыю апошніх падзей у нашай краіне, дзе былі затрыманы сотні людзей пасля вулічных акцый і мітынгаў, сілай былі падаўлены народныя пратэсты.

Пакуль жа складана спрагназаваць далейшую рэакцыю ўлад як у адносінах з апазіцыяй і асабліва з дэмакратычнымі актывістамі, незалежнымі СМІ, так і рэакцыю ў адказ нашых партнёраў на Захадзе. Афіцыйны Мінск падае свае сігналы, больш стрымана рэагуе, чым раней, на пратэсты. Вось і пра магчымасць павялічыць тэрміны бязвізавага ўезду ў Беларусь да 12 сутак загаварылі, не стаў палітычным зняволеным праваабаронца А. Бандарэнка, якога выпусцілі з Магілёўскай калоніі і не сталі асуджаць на дадатковы турэмны тэрмін. Таксама беларускага лідара запрасілі з візітам у ЗША на цырымонію 100-годдзя ўступлення амерыканцаў у Першую сусветную вайну.

Гэта важна для нас таму, што беларусам у адзіночку зараз з эканамічнымі праблемамі не справіцца, а галоўныя з іх сталі знешнія і ўнутраныя даўгі, якія накапіла Беларусь. Не ад добрага жыцця ў нас пайшлі на тое, што сёлета будуць неўзабаве прызнаныя банкрутамі і ліквідаваны 102 гаспадаркі на вёсцы. У адносінах яшчэ 323 сельгаспрадпрыемстваў прымяняецца працэдура дасудовага аздараўлення (санацыі), а пратэрмінаваныя запазычанасці 270 існуючых калгасаў у суме 600 млн. рублёў перададзены Агенцтву па ўпраўленні актывамі.

Між тым, ужо афіцыйная статыстыка не хавае наш узровень рэальнага беспрацоўя – 5,8 % і тое, што за рысай беднасці цяпер жыве 541 тысяча суайчыннікаў. Пакуль жа напружанне ва ўзаемных адносінах з Расіяй не зніжаецца, яшчэ з мінулага года беларусы не могуць атрымаць абяцаны чарговы транш з фонду развіцця і стабілізацыі ЕАЭС. У гэтай сітуацыі добра, што А. Лукашэнка перад сваім візітам у Туркменістан правёў важную сустрэчу з адным з кіраўнікоў Сусветнага банку. Гэта структура за два дзесяцігоддзі інвеставала ў Беларусь 1,6 млрд. долараў на айчынныя аб’екты энергетыкі, будаўніцтва і рэканструкцыю дарог, на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы медыцыны.

На гэты раз разглядаліся 9 беларускіх праграм далейшага супрацоўніцтва з СБ на суму каля 1 млрд. USD. На перыяд да 2021 года мы можам атрымаць адтуль дадатковыя сродкі, што станоўча паўплывае на далейшае развіццё Беларусі. Праўда, яшчэ больш выгадным з’яўляецца супрацоўніцтва з МВФ з найбольш нізкімі працэнтнымі стаўкамі пазыкі. Аднак вось ужо 4 гады з гэтым фондам дамовіцца не можам, бо Міжнародны валютны фонд дае грошы толькі пад ажыццяўленне канкрэтных рынкавых рэформ. Як вядома, сёлета нашай краіне належыць вярнуць сваім замежным крэдыторам 3,5 млрд. долараў знешняга доўгу.

Гэта сума – для Беларусі даволі значная, але валюту яна мае, каб разлічыцца за кошт накопленых золатавалютных рэзерваў яшчэ і ў наступным 2018 годзе нават не прыбягаючы да новых займаў. На гэтым фоне айчынны Нацбанк напрыканцы сакавіка ў 4-ты раз сёлета знізіў стаўку рэфінансавання ўжо да 14 % гадавых, што пацвярджае пэўную стабілізацыю ў беларускай фінансава-крэдытнай сістэме. Фактычна цяпер рост цэн замарудзіўся, беларусы болей па-ранейшаму прадаюць валюты, чым купляюць яе ў абменніках.

З іншага боку ў нашай краіне зацяжны эканамічны крызіс, бо толькі ў трох раёнах сярэднямесячныя заробкі перавышалі 400 долараў, нашы зарплаты ў 1,6 разы меншыя, чым у расіян і амаль у 3 разы болей нас зарабляюць палякі. Сітуацыю маглі б паправіць з цягам часу наспеўшыя рэформы ў беларускай эканоміцы і іншых сферах жыцця. Пакуль жа адзначым, што большая частка раёнаў Беларусі з’яўляюцца датацыйнымі, на месцах цяпер сутыкнуліся з тым, што няма за што рамантаваць дарогі. Выхад бачыцца ў большым прыцягненні ўнутраных і знешніх інвестыцый, пашырэнні магчымасцей для развіцця малога і сярэдняга бізнесу, перадачы мясцовым уладам больших паўнамоцтваў.

## Дзень за днём

**МВФ вырашыла прадоўжыць перамовы з Беларуссю аб новым крэдыце. Расія забараніла пастаўкі асобных беларускіх сыроў. У Мінску і Бабруйску прайшлі масавыя затрыманні "баевікоў", было праведзена 29 вобшукаў. Хвалю арыштаў у Беларусі асудзілі 48 праваабарончых арганізацый з 24 краін свету. Беларускі ўрад выдзеліў яшчэ 50 млн. рублёў на льготныя крэдыты па ўзвядзенні жылля. Ва ўрочышчы Курапаты пабудуюць мемарыяльны комплекс. На тэлеканале АНТ з'явіўся новы кіраўнік Марат Маркаў. У Беларусь ізноў прыйшла вясна цяплей звычайнай.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Д. Трамп загадаў зрабіць значна больш жорсткай працэдуру праверкі і выдачы ўязных віз для грамадзян усяго свету, зы выключэннем 38 краін.

**Англія.** Пасля тэракту з гібеллю 5 чалавек ля парламента прэм'ер-міністр Т. Мэй заявіла, што брытанцы ніколі не саступяць тэрарыстам і не дазволяць ім падзяліць краіну.

**Венесуэла.** Дзяржаўная кампанія PDVSA запатрабавала ад сваіх замежных партнёраў, уключаючы "Раснафту", рэзка знізіць здабычу нафты ў поясе ракі Арынока.

**Куба.** Палёты ў Гавану поўнасцю спынілі 2 авіякампаніі ЗША, пры прэзідэнце Д. Трампе збліжэнне дзвюх краін спынілася з-за пераследвання дысідэнтаў на востраве.

**Расія.** Дэпутат Дзярждумы ад КПРФ В. Рашкін запатрабаваў ад Следчага камітэта РФ праверыць звесткі аб карупцыйнай дзейнасці, палацах і яхтах прэм'ера Д. Мядзведзева.

**Літва.** Прэзідэнт Д. Грыбаўскайтэ заявіла, што рашэнне Польшчы не купляць электраэнергію з АЭС у Астраўцы толькі пацвярджае небяспеку гэтай станцыі.

**Егіпет.** Пасля 6 гадоў зняволення выйшаў на волю з ваеннага шпіталя апраўданы экс-прэзідэнт краіны Хосні Мубарак і пасяліўся на дзяржаўнай вілле ў Каіры.

**Эстонія.** Палітолаг П. Тайм заявіў, што ў Пуціна не хопіць рэсурсаў для разгортвання гібрыднай вайны ні на Беларусь, ні на краіны Балтыі, але існуе інфармацыйная пагроза.

**Украіна.** Забойства днём у цэнтры Кіева экс-дэпутата Дзяржздумы РФ Д. Вароненкава прэзідэнт П. Парашэнка назваў актам дзяржаўнага тэрарызму з боку Расіі.

**Расія.** Вядомы сатырык і публіцыст В. Шэндэровіч заявіў, што зараз ва ўладзе ў Расіі – забойцы, беспакаранасць (да часу) поўная, матывы іх злачынстваў – на паверхні.

**Англія.** Руская служба Бібі-сі назвала фейкам заявы афіцыйных беларускіх СМІ і главы краіны аб падрыхтоўцы правакацый з мэтай дэстабілізаваць абстаноўку ў Беларусі.

**Польшча.** МЗС краіны выказала занепакоенасць апошнімі падзеямі ў Беларусі і заклікала Мінск паважаць асноўныя правы чалавека і важнейшыя грамадзянскія правы людзей.

**Украіна.** Служба бяспекі звярнулася да беларускіх калег пацвердзіць інфармацыю пра наяўнасць ва Украіне лагераў "баевікоў" для арганізацыі нібыта правакацый у Беларусі.

**Расія.** У адказ на забарону ўезду на 3 гады ва Украіну расійскай удзельніцы конкурсу "Еўрабачання" Ю. Самойлавай за выступленні ў Крыме многія выступілі за яго байкот.

**Украіна.** Заснавальнік "Белага легіёна" С. Бульба папярэдзіў, што невыпадкова ў Беларусі накручваецца страх, магчыма паўтарэнне "крымскага сцэнарыя", страта незалежнасці.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мазыр.** "Укртранснафта" аднавіла працу нафтаправода для транспарціроўкі набытай Беларуссю іранскай нафты замест расійскай з парта Адэсы на мясцовы НПЗ.

**Магілёў.** Агучаная тут страшылка пра баевікоў і іх нейкія лагеры, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, прызначана для запужвання насельніцтва пагрозамі "крывавага майдана".

**Бабруйск.** Пасля допыту ўсю ноч ў КДБ адпусцілі афіцэра-дэсантніка М. Міхалькова, кіраўніка ваеннаспартыўнага клуба "Патрыёт", па краіне затрымалі 26 чалавек.

**Смаргонь.** У 4 гадзіны раніцы ў дом пенсіянеркі з райцэнтра залез 25-гадовы беспрацоўны раней судзімы рабаўнік і, пагражаючы тапаром, забраў 200 $ і 10 тысяч рублёў РФ.

**Мінск.** Ваенны эксперт А. Алесін заявіў, што вучэнні "Захад-2017" станунць казырнай картай улад Беларусі ў гандлі з Расіяй за энерганосьбіты, не будзе "крымскага сцэнарыя".

**Клецк.** Улады раёна першымі ў краіне раней А. Лукашэнкі забаранілі прадпрыемствам і арганізацыям звальняць і прымаць на работу без пісьмовага ўзгаднення з райвыканкамам.

**Бабруйск.** Улады горада прапанавалі адправіць работнікаў пяці прадпрыемстваў, якія прастойваюць, наводзіць парадак на вуліцах за 2/3 ад акладу на час вымушанага водпуску.

**Мінск.** У пачатку вясны ў сталіцы налічвалася амаль 8 тысяч вакантных працоўных месц, але на адну вакансію дворніка прэтэндавалі 58 беспрацоўных, 52 – на ўпакоўшчыка.

**Магілёў.** Настаўнікам усіх школ горада перадалі спісы беспрацоўных і абавязалі абысці кватэры ўсіх, каго падатковыя службы аднеслі да катэгорыі "дармаедаў".

**Мінск.** Калі б у нас, як заявіў экс-міністр працы Беларусі А. Сасноў, 23 гады назад пайшлі на рынкавыя эканамічныя рэформы, то мы б жылі не горш цяпер, чым суседзі ў Польшчы.

**Светлогорск.** Ва ўзросце 40 гадоў раптоўна памёр дома ноччу кіраўнік раёна Віктар Дарашэвіч, ён адпрацаваў 2 гады старшынёй райвыканкама, узначальваў Чачэрскі раён.

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч папярэдзіў, што ўлады пасля шырокіх акцый пратэсту перайшлі да агрэсіўнай тактыкі супраць сваіх палітычных апанентаў.

**Магілёў.** За ўдзел ў маршы "недармаедаў" з апошняга курса факультэта педагогікі і псіхалогіі дзяцінства дзяржуніверсітэта імя А. Куляшова адлічылі Алену Кісель.

**Любань.** Вечарам ля райцэнтра экіпаж ДАІ 30 км пераследваў п'янага вадзіцеля-ліхача на джыпе, страляў па калёсах машыны і затрымаў, калі аўто зляцела ў меліярацыйны канал.

Ліда. ААТ "Лідскае піва" да 950-годдзя беларускай сталіцы выпусціла новы сорт пеннага напою класічнага еўрапейскага піва з мяккім смакам "Менскае 1067".

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пракурор вобласці В. Сушчынскі прапанаваў абласвету дэпутатаў прадаставіць школьнікам права бясплатна ездзіць да месц вучобы, спорту і культуры і ў выхадныя дні.

**Браслаў.** У раёне пабываў і правёў прамую тэлефонную лінію з насельніцтвам па хвалюючых праблемах намеснік старшыні Камітэта дзяржкантролю Беларусі А. Курлыпа.

**Глыбокае.** Падчас чысткі сваёй сажалкі ў вёсцы Шэпелева дачнікі знайшлі на дне нямецкую міну ўзору 1916 года, якую потым знішчылі сапёры ў кар'еры Чэгелі.

**Віцебск.** У адрозненне ад Брэста, Гомеля і Гродна, у абласным цэнтры ў гарвыканкам выклікалі і забаранілі арганізатарам акцый правесці два мітынгі на Дзень Волі.

**Орша.** За заклік на мітынгу ўсім незадаволеным ехаць 25 сакавіка ў сталіцу, а потым сабрацца зноў дома, суд пакараў пенсіянера Васіля Берасnёва 14 суткамі арышту.

**Ветрына.** Раніцай са свайго дома каля 11.00 гадзін выйшаў 61-гадовы У. Серада і назад не вярнуўся, пошукі прапаўшага на працягу тыдня не прынеслі вынікаў.

**Віцебск.** З галаўнога прадпрыемства МТЗ у сельгасфіліял "Вымна" ААТ "Малако" прыбыла набытая ў лізінг новая тэхніка: больш дзесяці трактароў МТЗ-1221 і МТЗ-82.

**Орша.** У горадзе правялі ярмарку вакансій, на 360 свабодных працоўных месц тут звыш 1100 беспрацоўных, запатрабаваны урачы, інжынеры, медсёстры, швачкі, зваршчыкі.

**Мёры.** Дырэкцыя ўзводзімага металургічнага завода сустрэлася з выпускнікамі СШ № 3 і прапанавала паступаць у ВНУ, прыйсці на працу потым на завод са штатам 700 чалавек.

**Віцебск.** З-за працяглай адсутнасці заказаў на мясцовым заводзе сантэхнарыхтовак большую частку супрацоўнікаў перавялі на графік працы толькі 2 гадзіны на тыдзень.

**Гарадок.** Раніцай у вёсцы Халамер'е ў 16-кватэрным доме суседзі адчулі пах дыму ў адной з кватэр, узламалі дзверы і выцягнулі труп 62-гадовага пенсіянера, ён курыў у пасцелі.

**Верхнядзвінск.** Толькі на год замест прапанаваных 3-х гадоў прадоўжыла кіраўніцтва вобласці кантракт з дырэктарам ААТ "Боркавічы" А. Наталкіным за нізкія паказчыкі.

**Глыбокае.** Пасля апоўначы на тэрыторыі адной з пілорам у раённым цэнтры адбыўся пажар, агонь знішчыў 1 кубаметр дошак, пашкодзіў сцены і дах сушылкі драўніны.

**Паставы.** Аўтапарк № 17 набыў яшчэ 3 новыя беларускія аўтобусы "МАЗ-241" і першы з двух нямецкі камфартабельны аўтобус "SETRA", увёў паслугу "Аўтобус па званку".

**Полацк.** Услед за буйнейшымі чыгуначнымі вакзаламі краіны, Віцебска і Оршы да лета і тут з дапамогай кампаніі МТС запрацуе бясплатны Wi-Fi 4 G у зале чакання і холе вакзала

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*



# Ці законна зрэзалі клёны каля ракі Дзісна ў Германавічах?

**У рэдакцыю газеты звярнуўся наш пастаянны чытач Алег Райчонак з вёскі Германавічы Шаркаўшчынскага раёна, які вельмі абураўся тым, што на мінулым тыдні зрэзалі дрэвы, якія раслі каля ракі Дзісна непадалёк ад маста.**

■ **Зміцер Лупач, Леанід Юрык**

– Гэтыя дрэвы садзілі недзе ў 1975 годзе, калі я працаваў тут старшынёй калгаса. Мы акультурвалі тэрыторыю каля рэчкі, калгас грошы плаціў за гэтыя саджанцы. А тут узялі іх і зрэзалі, - абураецца Алег Георгіевіч. – Гэта пакаленне нічога не зрабіла, толькі дабіла тое, што мы зрабілі. Развалілі калгасы, прадпрыемствы, школы, бальніцы пазачынялі, а зараз ужо да дрэваў дабраліся.

Сапраўды, у панядзелак, 10 красавіка, мы пабачылі, што дрэвы былі зрэзаныя і ўжо парэзаныя на дровы.

– Калі яны добраўпарадкавалі тэрыторыю вакол ракі, то чаму лазу не зрэзалі, а толькі добрыя дрэвы панішчылі? – задаецца пытаннем Алег Райчонак.

Ён распавядае, што звяртаўся з гэтым пытаннем да начальніка аддзела аховы прыроды Шаркаўшчынскага райвыканкама Івана Міхалёнка, а той яму адказаў, што гэта шкодныя дрэвы.

Каб даведацца, якія ж расліны ў Беларусі лічацца шкоднымі, мы пашукалі інфармацыю ў Інтэрнэце. На сайце юрыдычнай кансультацыі www.beljurist.com паведамляецца, што такіх раслін-агрэсараў у Беларусі, акрамя ўсім вядомага баршчэўніка Сасноўскага, чатыры. Гэта сумнік (залатарнік) канадскі,"шалёны агурок", рабінія псеўдаакацыя і клён ясенелістаы, або канадскі.

Гэтыя расліны называюцца інавазіўнымі. Гэта расліны-агрэсары, якія выцясняюць спрадвечныя мясцовыя віды са сваіх тэрыторый. І зараз у Беларусі з імі вядзецца барацьба.

Каб пракансультавацца ў гэтым пытанні, мы звярнуліся да Аляксея Протаса, начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

Аляксей Віктаравіч пацвердзіў, што так, з такімі раслінамі ў нашай краіне зараз змагаюцца. Але каб зрэзаць хоць адно дрэва, патрэбны цэлы шэраг дакументаў. Лясная гаспадарка павінна напісаць акт, на якой падставе зразаецца тое ці іншае дрэва. І калі мясцовых жыхароў цікавіць, законна ці не законна правялі выразку дрэў, можна звярнуцца ў адпаведныя інстанцыі і праверыць гэта.

– Гэтыя дакументы цяжка падрабіць, гэта значыць выпісаць іх заднім чыслом, – патлумачыў Аляксей Протас, – так што хай людзі звяртаюцца ў прыродаахоўныя органы, калі сумняваюцца ў законнасці выразкі.

Аляксей Віктаравіч параіў непасрэдна звярнуцца да Івана Міхалёнка, начальніка аддзела аховы прыроды Шаркаўшчынскага райвыканкама.

Іван Іванавіч па тэлефоне нам адказаў, што выразка дрэў адбылася цалкам законна.

– Гэта інвазійныя расліны, таму мы вядзём з імі барацьбу. Я гэта спрабаваў патлумачыць Алегу Георгіевічу, але з ім цяжка гаварыць. Я разумею, яны іх садзілі, шкода гэтых клёнаў, але што зробіш. Раней і баршчэўнік разводзілі, хацелі ўсю краіну накарміць, а зараз не можам яго вывесці. Так што дрэвы зрэзаныя цалкам законна. А лазу не зрэзалі таму, што яна знаходзіцца ў водаахоўнай зоне, яе нельга выразаць. А з інавазійнымі клёнамі мы будзем і далей весці барацьбу, ужо запланаваная іх выразка ў Шаркоўшчыне.

Мы таксама звярнуліся да эколага з Мінска Рыгора Фёдарава. Ён патлумачыў, што дрэвы, якія прызнаныя інавазійнымі, выразаюцца на падставе акта аб наяўнасці месцаў, дзе гэтыя расліны растуць. Больш за тое, на раённыя інспекцыі ўскладзена задача выяўляць такія месцы.

Таму ёсць усе падставы меркаваць, што такі акт на выразку дрэў у Германавічах маецца. Але калі хтосьці з жыхароў у гэтым сумняецца, то можна звярнуцца ў інспекцыю, бо экалагічная інфармацыя ў нас у краіне лічыцца агульнадаступнай.

### Следчы камітэт паведамляе

# Крадзёж у вёсцы Патупы

**У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа, узбуджаная 28.03.2017 па ч.2 арт.205 КК Рэспублікі Беларусь па факце крадзяжу маёмасці (акумулятар, вуда са шпулькай, электрадрэль).**

**Інфармацыя аб злачынстве:**

Перыяд часу, у які здзейснена – з 17.00 гадзін 25.03.2017 да 16 гадзін 30 мінут 28.03.2017

Месца здзяйснення злачынства – Глыбоцкі раён, в. Патупы, вул. Усходняя.

**Акалічнасці злачынства:**

Неўсталяваная асоба ў перыяд часу з 17.00 гадзін 25.03.2017 да 16 гадзін 30 хвілін 28.03.2017 шляхам выбівання аконнай рамы пракралася ў дом па вул.Усходняй у в. Патупы Глыбоцкага раёна, адкуль таемна выкрала маёмасць: акумулятар, вуду са шпулькай, электрадрэль. З выкрадзеным схавалася і распарадзілася ім па сваім меркаванні.

Навочных сведкаў і асобаў, якім вядомыя якія-небудзь акалічнасці здзейсненага злачынства, прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г. Глыбокае, вул.Леніна, в.95, каб. №9, ці патэлефанаваць на нумар: 5-04-11.

Загадзя дзякую за супрацоўніцтва, з павагай,

**А.Д.Касцючэнка,**
*следчы СА Глыбоцкага РАСК, лейтэнант юстыцыі.*

# Навучальны год для старшакласнікаў скароцяць на тыдзень

**Навучальны год для старшакласнікаў плануецца зрабіць карацейшым, паведаміў БелТА першы намеснік міністра адукацыі Вадзім Богуш, прадстаўляючы дэпутацкаму корпусу новую рэдакцыю Кодэкса аб адукацыі.**

«Што тычыцца працягласці навучальнага года, прапануецца ў 9-х і 11-х класах трохі яго скараціць. Зараз ён прапісаны па 31 мая. Плануецца ўвесці працягласць да 25 мая», — сказаў Вадзім Богуш. Гэта будзе зроблена для таго, каб больш якасна сспланаваць выпускныя іспыты ў школе.

***БелТА.***



# У Беларусі падаражэў бензін — чацвёрты раз на 1 капейку

**У Беларусі чацвёрты раз за 2017 год даражэе паліва. У ноч на 8 красавіка кошты зноў зменяцца на адну капейку.**

Пасля поўначы цэны на запраўках будуць выглядаць так: АІ-95 — 1 рубель 23 капейкі, АІ-92 — 1 рубель 15 капеек, ДТ — 1 рубель 27 капеек.

Зрэшты, прэс-сакратар канцэрна «Белнафтахім» Марына Касцючэнка інфармацыю пра падаражанне не пацвердзіла, але і не абвергла.

— Пра тое, што паліва падаражэе, загадзя мы не паведамляем у сувязі з нашай інфармацыйнай палітыкай, — адзначыла прэс-сакратар.

***TUT.BY***



# Вынік рыбалкі: чатыры шчупакі – 871 рубель, у дадатак і штраф – да 50 базавых велічынь!

■ **Аляксей Пратас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Вясна, цяпло і сонечна, прырода змянілася, ажывае, расквітае. У выходныя, святочныя дні народ масава пацягнуўся на адпачынак у лес, на азёры, на прыроду - і гэта самыя "гарачыя" дні для працаўнікоў Глыбоцкай міжрайінспекцыі. Бо, не сакрэт, што культура нашых грамадзян яшчэ далёкая ад звычайнага чалавечага разумення.**

Пасля адпачынку грамадзян заўсёды знойдзеш кінутае смецце, не затушаныя вогнішчы, пустыя бутэлькі, звычайнай з'явай станавіцца мыйка аўтатранспарту каля вадаёмаў, здабыча рыбы сеткамі. Наведваючы вадаёмы інспектары, увесь час сутыкаюцца з рыбакамі, ахвотнікамі закінуць дзве-тры вуды ў перыяд вясновай забароны, ведаючы, што гэта забаронена і штраф за, здавалася б, дробнае парушэнне прадугледжаны ад 20 да 50 базавых велічынь, але ўсё адно такія рыбачкі ёсць. А вось прыбраць смецце пасля сябе або пакінутае на беразе папярэднім рыбаком, гэта – не, лепш буду сядзець у зайне з дзвюма вудамі, але прыбіраць не буду.

Увага рыбаловы, п.98 **Правілаў рыбалоўства абвяшчае: Рыбаловы,** якія здзяйсняюць рыбалоўства, абавязаны – падтрымліваць належны санітарны стан рыбалоўных угоддзяў, не пакідаць на іх берагах, а таксама на лёдзе смецце і іншыя адыходы, не дапушчаць засмечвання і забруджвання рыбалоўных угоддзяў іншым чынам; гэта значыць, што месца лоўлі рыбы павінна быць прыбраным ад смецця незалежна, хто яго пакінуў, вінаваты будзе той, хто ловіць рыбу.

**Абмежаванні на лоўлю рыбы на тэрыторыі Віцебскай вобласці наступілі з 10 красавіка да 8 чэрвеня, але для браканьераў абмежаванняў няма.** Гэтыя людзі робяць сваю чорную справу ў любую пару года, у тым ліку і ў перыяд нерасту, але далёка не заўсёды парушэнні ім сыходзяць з рук.

2 красавіка 2016 года каля 6 гадзін супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ажыццяўлялі рэйдавыя мерапрыемствы на возеры Азерскае Шаркоўшчынскага раёна і звярнулі ўвагу на мужчыну на беразе, які ўбачыўшы інспектараў, паспрабаваў схавацца, але быў затрыманы, а пры наглядзе ў яго пры сабе былі выяўленыя 4 асобіны шчупака, 2 асобіны плоткі, якія ён здабыў з дапамогай мярэжы.

Вынік незаконнай рыбалкі: кожны шчупак абыдзецца ў 207 рублёў, а ў агульнай суме 871 рубель, не лічачы накладзенага раённым судом штрафу, ад 20 да 50 базавых велічынь.

7 красавіка 2016 года супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі, знаходзячыся ў прыродаахоўным рэйдзе каля 7 гадзіны раніцы на возеры Забельскае Глыбоцкага раёна, затрымалі жыхара в. Мярэцкія, грамадзяніна З., які з дапамогай сеткі ажыццяўляў здабычу рыбы, паспеў здабыць 4 асобіны карася срэбнага. Нягледзячы на тое, што рыбы здабыць змог зусім мала, адказнасці пазбегнуць парушальніку не атрымалася. Раённы суд вынесе сваё рашэнне.

Гэта толькі тры дні працы інспектараў па ахове нашай прыроды. На жаль, парушальнікаў і браканьераў менш не становіцца, а абыякавасць людзей да браканьераў здзіўляе.

Пра ўсе вядомыя і здзяйсняныя факты парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефоны:

8- 02156 - 5-59-80 - кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.



**Краявід са смеццем, воз. Кагальнае.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Фонд абароны турыстаў плануецца стварыць у Беларусі

**Фонд абароны правоў турыстаў плануецца стварыць у Беларусі, паведаміў журналістам міністр спорту і турызму Аляксандр Шамко ў прэс-цэнтры БелТА.**

"Неабходнае стварэнне пэўнага фонду, які б выконваў функцыі абароны правоў турыстаў у выпадку адмены тураў па незалежных ад тураператара прычынаў", – адзначыў Аляксандр Шамко. Міністр звярнуў увагу, што стварэнне такога фонду – гэта не экстраная мера, а адзін з кірункаў сталай працы па абароне правоў і інтарэсаў беларускіх турыстаў. "Гэта не кажа, што сёння нашы турысты не абароненыя. Але сам механізм абароны трэба зрабіць максімальна гнуткім і прымальным, каб у выпадку форс-мажору чалавек мог аператыўна атрымаць кампенсаванне, каб адпачынак не быў сарваны і турыст мог абраць іншую краіну", – растлумачыў ён. Паралельна фонд зможа выконваць функцыі па пасоўванні турыстычных магчымасцяў Беларусі. "Хутчэй за ўсё, у фонда будзе пяць-сем кірункаў працы. Цяпер распрацоўваецца праект дакумента, дзе будуць пазначаны яго функцыі", – дадаў міністр.

***БелТА.***

# Пры з'яўленні асобаў цыганскай нацыянальнасці, неадкладна паведамляйце ў РАУС

■ **А.І. Гігола,**
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС*

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна ўсяго пражывае 9905 грамадзян пажылога ўзросту (больш за 60 гадоў), з іх адзінокіх – 1194, пажылых грамадзян, якія адзінока пражываюць – 5858. Супрацоўнікамі РАУС выяўлена 37 асобаў асацыяльных паводзін, якія пражываюць з пажылымі грамадзянамі. З гэтымі асобамі праводзіцца прафілактычныя мерапрыемствы. Усяго за 1 квартал 2017 года здзейснена 9 злачынстваў (у 2016 годзе за аналагічны перыяд часу – 5) у стаўленні састарэлых грамадзян, галоўным чынам гэта крадзяжы маёмасці.

**Каб не стаць ахвярай, памятайце:**

● калі выходзіце, зачыніце дзверы, вокны і балкон на ўсе замкі;

● пазбягайце гутарак на тэму свайго месцазнаходжання, асабліва ў прысутнасці чужых людзей і дзяцей. Нагадвайце дзецям пра тое, што нельга распавядаць незнаёмым людзям пра тое, хто знаходзіцца дома, а таксама пра тое, дзе могуць захоўвацца ключы ад дома ці кватэры;

● не пакідайце матэрыяльныя каштоўнасці без нагляду ў грамадскіх месцах;

● пры з'яўленні асобаў цыганскай нацыянальнасці неадкладна паведамляйце ў РАУС, не ўпускайце ў дом (кватэру), не здзяйсняйце якія-небудзь з імі ўгоды;

● абсталёўвайце кватэру ахоўнай сігналізацыяй, усталюйце тэлефон у спальным пакоі;

● пры з'яўленні незнаёмых грамадзян, якія здзяйсняюць рэалізацыю тавараў ці аказвальныя паслугі – паведамляйце ў РАУС на тэлефон "102";

Самае галоўнае - не ўпускайце ў дом незнаёмых людзей і не распівайце з імі спіртныя напоі.

У мэтах узмацнення абароны пажылых людзей ад супрацьпраўных замахаў, падвышэння ўзроўню ўзаемадзеяння суб'ектаў прафілактыкі па задавальненні запытаў і запатрабаванняў указаный катэгорыі грамадзян, з 10 па 18 красавіка 2017г. на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца адмысловае комплекснае мерапрыемства "Увага - узрост".

# «Яшчэ жыву!»

**Барысу Кіту, акадэміку Сусветнай акадэміі астранаўтыкі, члену Амерыканскага астранаўтычнага таварыства, колішняму вязню глыбоцкай турмы – 107 гадоў!**





**Барыс Кіт нарадзіўся 6 красавіка 1910 у Пецярбургу. Пачатковую адукацыю атрымаў у Навагрудскай гімназіі. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. З 1933 г. выкладаў матэматыку ў Беларускай гімназіі ў Вільні, а ў 1939 г. стаў яе дырэктарам. У 1940 г. заняў пасаду акруговага інспектара Баранавіцкай навучальнай акругі, арганізаваў пачатковыя і сярэднія школы ў Баранавіцкім, Слонімскім, Валожынскім і Ваўкавыскім раёнах. Аднавіў Беларускую гімназію ў Навагрудку.**

У часы гітлераўскай акупацыі быў дырэктарам школы ў Лебедзеве, гімназіі ў Паставах і гандлёвай школы ў Маладзечне, навучанне ў гімназіях ратавала моладзь ад вывазу ў Германію. Многія вучні былі ўдзячныя яму за настаўніцкую дзейнасць.

– Гэта было маё падарожжа з Паставаў, дзе я быў дырэктарам настаўніцкай семінарыі,– згадваў Барыс Кіт на Радыё Свабода 4.04.2005 г падчас онлайнавай канфэрэнцыі,– і я ехаў у Маладзечна, каб заняць пасаду дырэктара Адміністрацыйна-гандлёвага інстытуту. Калі я змяняў цягнік у **Крулеўшчыне**, нямецкая жандармерыя мяне западозрыла. Яны правяралі ўсіх у цягніку, але ў мяне знайшлі шмат дакументаў, і гэта яшчэ больш выклікала падазрэнні, што я маю сувязь з партызанамі. Мяне паслалі ў Глыбокае.

Я сядзеў у страшэннай нямецкай турме і паміраў штодня, 30 дзён сядзеў у турме ў **Глыбокім**. Кожны дзень паліцыя забірала ад нас з такой ямы на расстрэл 25 чалавек, 5 заставалася, і я сярод іх. І так 30 дзён, 30 разоў чакаў смерці. Але Бог, відаць, не хацеў маёй смерці. Трэба сказаць, што мяне тады выратаваў Кастусь Касяк, які пайшоў да нямецкага гэбітскамісара і дамогся майго вызвалення праз 30 дзён у турме. Ён быў маім вучнем у Навагрудскай беларускай гімназіі, добрым вучнем. І многім беларусам ён тады дапамог вызваліцца з нямецкіх турмаў. Але калі прыйшлі бальшавікі, то першым яго павесілі…

Улетку 1944 г. выехаў у Германію, у 1947 г. прыехаў у ЗША. Адзін са стваральнікаў беларускага асяродка ў Саўт-Рыверы. Кіт разам з Франакам Шаўроўскім, Лангінай і Уладзімірам Брылеўскім, Міхасём Сенькам запрашалі беларусаў з Нямеччыны ў Саўт-Рывер, шукалі ім жыллё, працу. Такім чынам паўстаў беларускі асяродак з царквой, які паспяхова дажыў да нашага часу.

У 1950 г. Кіт пераехаў у Лос-Анджэлас, дзе таксама спрычыніўся да арганізацыі беларускага жыцця.

З сярэдзіны 1960-х удзельнічаў у касмічных праектах, у выніку чаго пакінуў грамадскую дзейнасць.

Барыс Кіт даследаваў вадкі вадарод і распрацаваў формулу паліва, якое зрабіла магчымым гістарычны запуск **Apollo-11** і высадку чалавека на Месяц. Ён аўтар манаграфіі пра ракетнае паліва, якая лічыцца ў адмыслоўцаў кананічнай, выкладчык, чые вучні пазасноўвалі ўласныя даследчыя школы, ганаровы доктар шэрагу амерыканскіх і еўрапейскіх універсітэтаў.

Імя Барыса Кіта закладзена ў "капсулу часу" лепшых навукоўцаў сусветнай касманаўтыкі, замураваную ў сцяну амерыканскага Капітолія і будзе адкрыта нашчадкамі толькі праз 500 гадоў. Такога ганаровага жэсту ў ЗША ўзнагароджваюцца людзі, якія маюць адмысловыя заслугі перад краінай.

Пару тыдняў таму журналістка «Народнай волі» Раіса Унукава патэлефанавала Барысу Уладзіміравічу Кіту, які цяпер жыве ў Франкфурцена-Майне (Германія) у доме састарэлых.

«Яшчэ жыву!» – пачуўся шчаслівы і радасны смех. Рады, што можна паразмаўляць, ды яшчэ і пабеларуску.

**«Ну, якія ў вас навіны?»**

— «Аніякіх. Праўда, днямі Амерыка (Кіт мае амерыканскае грамадзянства) турбавалася, ці жывы яшчэ, бо я атрымліваю амерыканскую пенсію. Дык вось, трэба будзе цяпер даказваць, што жыву, — смяецца. (...)

– Я рады, што большую частку жыцця займаўся навукай, што прынёс шмат карысці чалавецтву... Я даследаваў неверагодна цікавыя рэчы ў галіне астранаўтыкі. Асабліва ганаруся тым, што ўдзельнічаў у распрацоўцы вадкага вадароду, які стаў асноўным ракетным палівам, дзякуючы чаму зрабілася магчымым падарожжа на Месяц... На працягу 25 гадоў я працаваў у галіне касмічных даследаванняў у Амерыцы, напісаў першы ў гісторыі касманаўтыкі падручнік па паліве для ракетных сістэм, які быў станоўча ацэнены ва ўсім свеце. І я быў заўсёдным дэлегатам усіх міжнародных кангрэсаў па астранаўтыцы, дзе выступаў з дакладамі і паведамленнямі.

*Падрыхтаваў Ул. Скрабатун.*

# Знойдзены просты спосаб спыніць старэнне

Навукоўцы з Паўднёвай Карэі выявілі рэчыва, якое вырашыць праблему старэння. Даўно ўсталявана, што клеткі нашага арганізма старэюць з-за дэградацыі лізасом, якія адказваюць за расшчапленне біяпалімераў і за збавенне ад непатрэбных кампанентаў. У сувязі з назапашваннем апошніх і адбываецца парушэнне метабалізму, якое ў сваю чаргу прыводзіць да старэння ўсяго арганізма. Даследчыкі ўсталявалі, што злучэнне KU-60019 блакуе бялок ATM, з-за актыўнасці якога дэградуюць лізасомы, і тым самым дапамагае аднаўляць функцыі клетак, якія старэюць. На дадзены момант навукоўцы плануюць правесці эксперыменты на жывёльных мадэлях, якія схільныя хуткаму старэнню з-за розных мадыфікацый. Падчас даследавання будзе ўсталявана чаканая працягласць жыцця людзей.

*Паводле БелТА.*



# Першы гаджэт у дзіцяці павінен з'явіцца не раней за 6 гадоў — афтальмолаг

**Першы гаджэт ў дзіцяці павінен з'явіцца не раней за шэсць гадоў. Пра гэта паведаміла журналістам галоўны пазаштатны дзіцячы афтальмолаг Міністэрства аховы здароўя Беларусі, прафесар кафедры афтальмалогіі Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі Вікторыя Красільнікава.**

«Найлепшы час для першага гаджэта – гэта шэсць гадоў, у гэтым узросце ён ідзе ў школу», – сказала Вікторыя Красільнікавай. Да гэтага часу завяршаецца першы этап фарміравання органа зроку. Да трох гадоў адназначна ў малога не павінна быць тэлефонаў і планшэтаў. У лепшым выпадку дзіця можа абмежаваны час глядзець тэлевізар.

Пры выбары гаджэта для дзяцей афтальмолагі рэкамендуюць набываць планшэт з вялікай дыяганаллю, дзе малюнкі і літары будуць дастатковага памеру. Дзецям ад шасці да 12 гадоў карыстацца такой тэхнікай рэкамендуецца не больш за гадзіну. Пры гэтым трэба рабіць перапынкі па 15 хвілін, падчас якіх пажадана выдаткоўваць час на занятк, якія не нясуць нагрузкі на вочы.

*БелТА*



# У Лепелі ў беспрацоўнага канфіскавалі дзве вінтоўкі і паўтары сотні патронаў

**Крымінальная справа за незаконнае захоўванне зброі і боепрыпасаў узбуджана ў стаўленні беспрацоўнага жыхара Лепеля.**

У доме мужчыны супрацоўнікі крымінальнага вышуку Чашніцкага РАУС знайшлі і канфіскавалі вінтоўку сістэмы Мосіна, малакаліберную вінтоўку ТОЗ-8М і 144 патроны рознага калібра, паведамляе прэс-служба МУС.

*ННВ.*

# У Беларусі ўводзяць новыя пенсійныя пасведчанні

**У Беларусі ўводзяць новыя пенсійныя пасведчанні. Гэта прадугледжана пастановай Саўміна ад 6 красавіка № 255. Гэтым дакументам зацверджаны формы пенсійнага пасведчання і пенсійнага пасведчання тым беларусам, якія атрымліваюць пенсію за асаблівыя заслугі перад краінай.**

Старыя пенсійныя пасведчанні будуць лічыцца сапраўднымі, яны не падлягаюць абмену на новыя.

Забяспечыць выдачу пенсійных пасведчанняў па новых формах пасля выкарыстання бланкаў пенсійных пасведчанняў узору даручылі Мінпрацы. Ведамству таксама трэба арганізаваць выраб у неабходнай колькасці пенсійных пасведчанняў па зацверджаных формах за кошт сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце на гэтыя мэты. Акрамя таго, Мінпрацы даручылі на працягу двух месяцаў прывесці свае нарматыўныя прававыя акты ў адпаведнасць з гэтай пастановай.

Змены ўступаюць у сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

*Паводле БелТА*



# Веды і выкананне правіл – гарантыя бяспекі пры эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак

**■ А. Ю. Рацьковіч,** *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Абслугоўванне цеплаўсталёвак спалучана з пэўнымі цяжкасцямі і небяспекамі. Парадак эксплуатацыі, абслугоўвання і рамонту цеплавыкарыстальных усталёвак і цеплавых сетак вызначаны ТКП 458-2012 "Правілы тэхнічнай эксплуатацыі цеплаўсталёвак і цеплавых сетак спажыўцоў" і ТКП 459-2012 "Правілы тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі цеплаўсталёвак і цеплавых сетак спажыўцоў". Дзяржаўны энергетычны нагляд нагадвае асноўныя правілы, выкананне якіх ляжыць у аснове прамысловай бяспекі.

Эксплуатацыю цеплаўсталёвак і цеплавых сетак павінен ажыццяўляць падрыхтаваны персанал. Спецыялісты павінны мець адукацыю, якая адпавядае іх пасадзе, а працоўныя – адпаведную прафесійную падрыхтоўку, у тым ліку па пытаннях аховы працы. Асобы, якія прымаюцца на працу па абслугоўванні цеплавыкарыстальных усталёвак і цеплавых сетак, павінны прайсці папярэдні медыцынскі агляд і ў далейшым праходзіць яго перыядычна ў тэрміны, усталяваныя для персанала арганізацыі ў адпаведнасці з Інструкцыяй аб парадку правядзення абавязковых медыцынскіх аглядаў працуючых. Перад допускам да самастойнай працы персанал павінен прайсці навучанне, стажыроўку, інструктаж і праверку ведаў па пытаннях аховы працы. Раз на год аператыўны, аператыўна-рамонтны і рамонтны персанал павінен праходзіць перыядычную праверку ведаў у аб'ёме патрабаванняў ТКП 458-2012 "Правілы тэхнічнай эксплуатацыі цеплаўсталёвак і цеплавых сетак спажыўцоў", ТКП 459-2012 "Правілы тэхнікі бяспекі пры іх эксплуатацыі цеплаўталёвак і цеплавых сетак спажыўцоў" і іншых нарматыўна-прававых актаў, выкананне якіх уваходзіць у іх абавязкі.

Персанал, які абслугоўвае цеплавыя сеткі, павінен быць забяспечаны па дзейсных нормах сродкамі індывідуальнай абароны і абавязаны правільна іх выкарыстоўваць падчас вытворчасці работ.

Работы на цеплавыкарыстальных усталёўках і цеплавых сетках праводзяцца па пісьмовых нарадах-допусках, вусных ці пісьмовых распараджэннях. Пералік работ, выкананых па нарадах, вызначаны ТКП 459-2012 "Правілы тэхнікі бяспекі пры іх эксплуатацыі цеплаўсталёвак і цеплавых сетак спажыўцоў" і ўключае 13 відаў работ. Аднак з улікам мясцовых умоў па нарадах могуць выконвацца і іншыя работы, пералік якіх зацвярджаецца кіраўніком арганізацыі. Работы, для выканання якіх не патрабуецца правядзенне тэхнічных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы працоўных месцаў, могуць выконвацца па распараджэнні. Пералік такіх работ таксама зацвярджаецца кіраўніком арганізацыі.

Падвядзем вынік: выразнае выкананне правіл, своечасовае і якаснае навучанне персанала, правядзенне перыядычных і мэтавых інструктажоў, арганізацыя супрацьаварыйных трэніровак дазволіць персаналу набыць навыкі па бяспечнай эксплуатацыі і ліквідацыі парушэнняў рэжыму працы цеплавыкарыстальных усталёвак і цеплавых сетак. А самае галоўнае, пазбегнуць няшчасных выпадкаў і траўмаў.

# У Віцебскай вобласці пракуроры выявілі парушэнні ў працы камісій па папярэджанні банкруцтва

**Пракуратура Віцебскай вобласці выявіла істотныя парушэнні ў дзейнасці камісій па папярэджанні эканамічнай безгрунтоўнасці (банкруцтва), паведаміла карэспандэнту БелТА пракурор аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў пракуратуры Віцебскай вобласці Марына Запрудская.**

"Пракуратура Віцебскай вобласці ў лютым-сакавіку бягучага года правяла праверку дзейнасці камісій па папярэджанні эканамічнай безгрунтоўнасці, якія накіраваныя на прыняцце мер па папярэджанні банкруцтва прадпрыемстваў вобласці і аднаўленні іх плацежаздольнасці. У дзейнасці камісій пракуроры выявілі істотныя парушэнні заканадаўства", – адзначыла Марына Запрудская.

У прыватнасці, у склад камісій неабгрунтавана ўключаліся асобы, якія не прайшлі праверку на прадмет наяўнасці асуджанасцяў, а ў выпадку кадравых змен склад камісій не пераглядаўся. Пытанні ўжывання мер па змене структуры і складу органаў кіравання прадпрыемстваў, у стаўленні якіх выканкамамі ажыццяўляецца ўладальніцкі нагляд, не разглядаліся. У асобных выпадках прыманыя камісіямі рашэнні з'яўляліся няпэўнымі і ўтрымоўвалі агульныя фразы ("павялічыць вытворчасць прадукцыі, што пацягне за сабой павелічэнне выручкі і зніжэнне сабекошту", "забяспечыць тэмп росту валавай прадукцыі" і г.д.), што сведчыць пра фармалізм у праводжанай працы. Таксама выяўлена адсутнасць належнага ўзаемадзеяння паміж камісіямі і дзяржорганамі, што ў сваю чаргу негатыўна ўплывае на пытанні эканамічнага развіцця раёнаў і інш.

У выніку праведзенай праверкі недастатковая эфектыўнасць у працы камісій адзначана ў Наваполацку, **Глыбоцкім**, Гарадоцкім, Лепельскім, Лёзненскім, Ушацкім, Шаркоўшчынскім і іншых раёнах.

Па фактах выяўленых парушэнняў заканадаўства пракурорамі гарадоў і раёнаў старшыням мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў занесена 5 прадстаўленняў, унесена адно прадпісанне, накіравана дзве інфармацыі. Пракуратура Віцебскай вобласці накіравала ў аблвыканкам абагульненае ўяўленне пра ўхіленне парушэнняў заканадаўства, накіраванага на папярэджанне эканамічнай безгрунтоўнасці і спрыяльных ім прычынаў і ўмоў. Дакумент знаходзіцца на разглядзе.

*Алена Ціханава – БелТА.*

## Усе раённыя цэнтры будуць мець доступ да 4G да канца года – Папкоў

Усе раённыя цэнтры будуць мець доступ да 4G да канца года, заявіў 11 красавіка ў прэс-цэнтры БЕЛТА міністр сувязі і інфарматызацыі Сяргей Папкоў.

*БелТА.*



## У Паставах пажарнікі выратавалі жанчыну, якая танула

**10 красавіка ў 19:09 пастаўскія выратавальнікі атрымалі паведамленне пра тое, што ў рацэ Мядзелка ў раёне Зарэчнай вуліцы тоне жанчына.**

Падраздзяленне Пастаўскага РАНС, якое прыбыло на выклік, выявіла жанчыну, якая тоне ў пяці метрах ад берага. Апрануўшыся ў выратавальны касцюм, адзін з пажарнікаў пры дапамозе вяроўкі выцягнуў пацярпелую на бераг.

У 19:21 46-гадовая беспрацоўная жыхарка Пастаў была перададзена брыгадзе хуткай дапамогі. Медыкі дыягнаставалі ў яе агульнае пераахаладжэнне і адвезлі ў раённую бальніцу, паведамляецца прэс-службай МНС.

*ННВ.*

## МНС інфармуе

**на 11.04.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 230;
Гібель людзей – 41, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 13;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Два белавежскія зубры перададзены ў нацыянальны парк "Браслаўскія азёры"

**Два зубры з Белавежскай пушчы бязвыплатна перададзеныя ў нацыянальны парк "Браслаўскія азёры", паведаміў карэспандэнту БелТА вядучы навуковы супрацоўнік нацыянальнага парка "Белавежская пушча" Аляксей Буневіч.**

Перадача, занесеных у Чырвоную кнігу жывёл, адбылася з дазволу Мінпрыроды па ўзгадненні з Упраўленнем справамі Прэзідэнта. Зубраў з пушчы на Віцебшчыну даставілі 30 сакавіка. Новым месцам жыхарства белавежскіх волатаў сталі прасторныя экскурсійныя вальеры нацыянальнага парка "Браслаўскія азёры". За месяц да адпраўкі зубры, прыкладна трохгадовага ўзросту, былі адлоўленыя і змешчаныя ў карантынны вальер. Для пазбягання блізкароднаснага скрыжавання жывёл адлоўлівалі з розных статкаў.

Белавежскія зубры папоўнілі фауну парка на тэрыторыі Беларускага Паазер'я. "Праз два гады ад маладой пары можна будзе чакаць прыплоду, бо полаваспелымі самкі становяцца не раней, чым у 4 гады, а самцы – у 3 гады", – растлумачыў Аляксей Буневіч. Гэта была першая адпраўка зубраў з пушчы за апошнія два гады. Жаданне набыць дзясятак белавежскіх зубраў выявілі таксама прадстаўнікі аднаго з расійскіх рэгіёнаў.

Паводле зімовых улікаў дзікіх жывёл, на пачатак года ў Белавежскай пушчы налічвалася 512 зубраў. Тэрытарыяльна яны ўтвараюць пяць груповак колькасцю ад 50 да 300 асобінаў у кожнай. Маткавае пагалоўе зубрынага статка Белавежскай пушчы стала асновай для стварэння новых вольнажывучых мікрапапуляцый зубра не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

*БелТА.*

# Абаненты сотавых апаратараў змогуць адмовіцца ад непатрэбных смс-рассыланнеў - Мінсувязі

**Міністэрства сувязі і інфарматызацыі мае намер забяспечыць права абанента сотавай сувязі адмовіцца ад смс-рассыланнеў. Пра гэта паведаміла ў прэс-цэнтры БелТА начальнік упраўлення электрасувязі Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Вольга Федарэева.**

Мінсувязі рыхтуе змены ў правілы аказання паслуг электрасувязі. Там прадугледжваецца ўрэгуляванне пытання – забеспячэння права абанента адмовіцца ад смс-рассыланнеў. Асноватворным з'яўляецца тое, што аператар электрасувязі абавязаны будзе ажыццяўляць рассыланне смс-паведамленняў толькі з указаннем абаненцкага нумара ці ўнікальнага кода ідэнтыфікацыі. Таксама па пісьмовай заяве абанента кампанія павінна будзе спыніць перадачу смс-паведамленняў з указанага абаненцкага нумара.

"Гэта выклікана, першым чынам, жаданнем нашых абанентаў паменшыць колькасць рассыланняў, асабліва рэкламнага характару, якія прыходзяць на іх мабільныя тэлефоны", – дадала начальнік упраўлення.

Як заўважыў міністр сувязі і інфарматызацыі Сяргей Папкоў, гэта пытанне абмяркоўвалася на радзе па развіцці прадпрымальніцтва, створанага пры міністэрстве, і падтрыманы ўсімі апаратарамі сувязі. "Гэта сумеснае рашэнне. Наша задача – ахаваць грамадзян ад непатрэбнага", – сказаў міністр.

*БелТА.*



